**У чацвер і пятніцу тэмпература паветра на поўдні Беларусі можа дасягнуць +36 градусаў.**

№ 50 (4199)

27 чэрвеня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

УЧОРА

## Пасла Украіны выклікалі ў беларускае МЗС

Прычынай сталі *«тэндэнцыйныя выказванні ў СМІ ў дачыненні да вучэння «Славянскае братэрства–2017»*, паведаміла прэс-служба беларускага МЗС.

Ігару Кізіме было ўказана на тое, што зробленыя ім заявы не адпавядаюць высокаму ўзроўню дружалюбных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Украінай, з'яўляюцца некарэктнымі і ўтрымліваюць неабгрунтаваныя абвінавачванні Рэспублікі Беларусь у невыкананні мер даверу і бяспекі ў рэгіёне АБСЕ.

*"Увага пасла была звернута на тое, што вучэнне «Славянскае братэрства–2017» было праведзена ў поўнай адпаведнасці з нормамі міжнароднага права і абавязацельствамі Беларусі ў рамках АБСЕ. Пры гэтым запрашэнне ваенных аташэ, у тым ліку Украіны, на дадзенае вучэнне з'ўлялася выключна жэстам добрай волі з беларускага боку, што сведчыла аб высокай транспарэнтнасці мерапрыемства"*, – сказана ў паведамленні прэс-службы МЗС.

19 чэрвеня на канферэнцыі Ostrogorsky Forum Ігар Кізіма рэзка пракаментаваў нядаўнія вучэнні Беларусі, Расіі і Сербіі. Дыпламат тады заявіў: "*Мой ваенны аташэ паехаў туды, для іх зладзілі паказальны фарс. Ім паказалі тэатралізаванае прадстаўленне па захопе тэрарыстычнай групы на дамбе. Вельмі класна зроблена. А самі вучэнні прайшлі ў іншым месцы, куды не запрасілі ніводнага назіральніка, ваеннага аташэ. Трэба дэманстраваць вялікую адкрытасць*".

БЕЛАРУСЬ–ЕС

## Ці прыслухаецца ПАСЕ да Андрэа Рыгоні?

Днямі адкрылася чарговая сесія Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы. Цікава, як будзе ўспрынята на ёй выступленне спецдакладчыка па Беларусі **Андрэа Рыгоні?** Яно, дарэчы, павінна адбыцца ўжо сёння, 27 чэрвеня.

Прасачылася інфармацыя, што спадар Рыгоні лічыць сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі нездавальняючай. У краіне, маўляў, рэальна існуе артыкул 193.1 Крымінальнага кодэкса, які прадугледжвае пакаранне за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. З-за гэтага больш 150 беларускіх няўрадавых арганізацый вымушаны былі зарэгістравацца ў Літве, Польшчы, Чэхіі і іншых краінах.

Мяркуецца, А.Рыгоні пакрытыкуе беларускія ўлады і за тое, што яны адмаўляюцца ад супрацоўніцтва са спецдакладчыкам ААН па правах чалавека ў Беларусі. *"ПАСЕ павінна заклікаць урад Беларусі адкрыць краіну для ўсіх праваабарончых механізмаў і інстытутаў, няхай гэта будзе на ўзроўні Савета Еўропы, Еўрапейскага Саюза, АБСЕ або Арганізацыі Аб'яднаных Нацый"*, – такая выснова спецдакладчыка.

У дакуменце, які, верагодна, прыме сесія ПАСЕ, будзе ўтрымлівацца заклік да беларускіх улад паважаць і падтрымліваць правы грамадзян на свабоду сходаў, асацыяцый, меркаванняў і СМІ, забяспечыць палітычны плюралізм, свабодныя і справядлівыя выбары. Для еўрапейскай супольнасці пажадана, каб Мінск увёў неадкладны мараторый на смяротнае пакаранне.

**Іван ПАЛЬЧЭЎСКІ.**

СТОП-КАДР

## Дыпламаты апранулі вышыванкі



Паверены ў справах ЗША Роберт Райлі з сынамі.

Напярэдадні Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь міністр замежных спраў **Уладзімір Макей** запрасіў кіраўнікоў дыпламатычных місій, акрэдытаваных у краіне, разам з сем'ямі прыняць удзел у свяце «Дзень беларускай вышыванкі», якое адбылося 25 чэрвеня. І амаль усе дыпламаты на мерапрыемства прыйшлі ў вышыванках.

*"Я лічу, што наша сённяшняя сустрэча – гэта таксама ваш уклад у развіццё беларускай ідэнтычнасці, у развіццё беларускай дзяржавы»*, – вітаў гасцей Уладзімір Макей. А напрыканцы мерапрыемства кіраўнік замежнапалітычнага ведамства Беларусі выказаў надзею, што традыцыя, якая была закладзена, будзе і далей захоўвацца і развівацца.





Уладзімір Макей з жонкай – вядомай актрысай Верай Паляковай і сынам.

СЛЫШАЛИ?

## Имущество скандального минского девелопера Демчука выставлено на торги

За «помещение транспортного назначения», принадлежащее компании «Финанстрансгрупп» экс-девелопера Сергея Демчука, просят в начале торгов 8.719.884 рублей, или 4,5 млн долларов.

Как указывает в приглашении к торгам, которые состоятся 30 сентября, отдел принудительного исполнения управления принудительного исполнения главного управления юстиции Мингорисполкома, площадь строения составляет 21.684 кв.метров.

Отмечается, что публичные торги проводятся в рамках исполнительных производств о взыскании задолженности с Сергея Демчука.

Сергей Демчук – один из первопроходцев-бизнесменов столичного рынка недвижимости, застройщик Комаровки и нескольких десятков других объектов. С его участием были построены такие известные торговые объекты, как «Паркинг», «Атлантик», «Зеркало», одна из компаний бизнесмена – «Производственно-инвестиционная группа» -- являлась акционером «МинскКомплексБанка».

В 2004 году компания девелопера «Перспектива-инвест Строй» начала строительство комплекса жилых зданий в районе улицы Филимонова. Но, собрав с дольщиков около 10 млн долларов, так и не закончила проект. Такая же история была уготована еще одному инвестпроекту Сергея Демчука – строительству бизнес-центра на улице Интернациональной, который вела фирма «Сулона».

В 2012 году суд признал Сергей Демчука в мошенничестве, его осудили на 8 лет колонии. В 2015 году по другому делу ему добавили к этому сроку еще один год. Бизнесмен был владельцем и совладельцем многих компаний, среди которых также «Перспектива-Инвест РИД», «Паркинг-Инвест Строй», «Столичный центр», «Армеец».

(Ej.by.)

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## Са спазненнем у 95 год…

Палата прадстаўнікоў прыняла ў першым чытанні дапаўненні ў Крымінальна-працэсуальны кодэкс, якія замацоўваюць права грамадзян – сведак у крымінальным працэсе на кваліфікаваную юрыдычную дапамогу.

Як паведаміў міністр юстыцыі **Алег Сліжэўскі,** законапраект распрацаваны ў мэтах выканання рашэння Канстытуцыйнага суда.

Сутнасць новаўвядзення ў тым, што грамадзянін, якога следчы выклікае ў якасці сведкі, атрымае права ісці туды разам з адвакатам. Пакуль што прысутнасць абаронцы магчыма, але толькі з санкцыі следчых органаў, якія дазвол могуць даць, а могуць і не даць.

Старшыня камісіі ў пытаннях заканадаўства Палаты прадстаўнікоў **Наталля Гуйвік**, абмяркоўваючы змену ў заканадаўстве, нагадала, што сёлета адзначаецца 95 гадоў беларускай адвакатуры: *«І я лічу, што мы спазніліся з гэтай нормай акурат на столькі ж – на 95 гадоў. Тое, што сказаў сведка без адваката, далей ужо не зменіш. Таму трэба, каб адвакат абавязкова прысутнічаў пры допыце»*.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## Государство как обанкротившийся менеджер

Когда председателя Минского горисполкома ставили на должность директора промышленного предприятия, попавшего глубоко в пропасть (чтобы не сказать резче), вероятно, подразумевалось, что бесценный «кадр» из пропасти это предприятие вытащит.

И – что?

У Цветаевой была строка: «Уж сколько их упало в эту бездну…». Действительно – сколько? Сейчас мы наблюдаем результаты антикризисного управленчества бывшего минского градоначальника господина Ладутько, которого назначили на «Мотовело» расхлебывать менеджерские решения осужденного Муравьева (которому то же самое государство в свое время минский мотовелозавод и продало, надеясь на его таланты). И вот – главным рецептом от Ладутько становится банкротство завода. Обанкротим, мол, а дальше будем думать, что с ним делать.

А вам не кажется, друзья мои, что идею банкротства мог бы подсказать любой десятиклассник, не имеющий управленческого опыта Ладутько? Фактически в наших условиях это означает частичное списание и частичную реструктуризацию задолженности. То есть речь не идет о снятии проблемы как таковой, о ликвидации причин кризиса на предприятии – речь идет как раз о замораживании ситуации на нем.

Каким матерым человечищем нужно быть, чтобы до такого додуматься! Свыше двадцати лет белорусское руководство по такому принципу «лечит» все отрасли нашей экономики – от легкой промышленности до сельского хозяйства! И прибыльнее, как мы знаем, они от этого не становятся. Иногда наоборот – конкретное прибыльное предприятие на глазах становится убыточным, но мы ведь не будем обвинять в этом государственную экономическую политику, верно? А директор разом огосударственного, например, акционерного общества пойдет на повышение – скажем, на должность вице-губернатора, а то и повыше. Бесценный «кадр», друзья мои, бесценный. Нельзя его потерять ни в коем случае! Предприятие можно – руководителя нельзя!

Молодежь не помнит, но был такой персонаж – Егор Лигачев, главный идеолог КПСС в ранний период перестройки. Когда стало понятно, что Егор Кузьмич не соответствует требованиям времени, его «перебросили» на сельское хозяйство. Как говорил сам товарищ Лигачев, «чертовски хочется работать». Было дешевле платить ему персональную пенсию, чем потом всей страной расхлебывать результаты его «чертовски желанной работы». Но принцип номенклатуры прост: хочется работать – пусть работает! Хоть мэром, хоть директором бани, хоть секретарем ЦК КПСС по идеологии! И он работал.

Бывшего минского мэра было куда безопасней поставить директором идеологии, чем директором завода, когда-то территориально подчинявшегося ему же: идеологии у нас один черт нет, а завод есть, и на нем люди работают. Но желающих курировать идеологические призраки намного больше, чем тех, кто осмелится в лоб сказать высшему руководству страны: оставьте завод в покое, он выкарабкается без нас с вами! И вот назначенный директором г-н Ладутько констатирует, что пациент скорее мертв, чем жив, а потому объявим его банкротом…

Ну, объявили… Новых моделей продукции от этого на рынке не появится. Как и реально новых условий экономической деятельности. Для этого нужно менять не только директора «Мотовело»…

Но попробуйте сказать об этом, например, премьер-министру. Он ведь обидится! Он сам себя банкротом не считает – ему чертовски хочется работать!

ВІТАЕМ!




## Прэзідэнт В'етнама прыбыў з афіцыйным візітам у Беларусь

СКАЗАНА!

## Аптымістычны прагноз Васіля Мацюшэўскага

Учора першы намеснік прэм'ер-міністра Беларусі **Васіль Мацюшэўскі** на сумесным пасяджэнні абедзвюх палат Нацыянальнага сходу заявіў, што дасягнуць сярэднюю па краіне заработную плату на ўзроўні 1 тысячы рублёў атрымаецца да канца 2017 года.

Паводле слоў Мацюшэўскага, цяпер назіраюцца «нядрэнныя тэмпы росту заработнай платы»: за студзень–красавік 2017 года яна вырасла на 8,9% і склала больш за 776 рублёў.

**Сёння да заканчэння рабочага дня паштовых аддзяленняў яшчэ можна падпісацца на «Народную Волю» на другую палову 2017 года.**
**Руку на далейшае сяброўства!**

ПАМЯЦЬ

## У них была прекрасная эпоха…

…Вдова Ростислава Ивановича Янковского тихо разговаривала с сыном Игорем о его детях – своих внуках: как сдали экзамены, куда едут отдыхать… Обсуждали обычные семейные новости: здоровье, планы, настроение. Необычным было только место встречи матери и сына: Восточное (Московское) кладбище, могила Ростислава Ивановича. Нина Давидовна, немолодая, не очень здоровая женщина в черном строгом костюме, сидела на маленьком стульчике у могильного холмика, уставленного венками и цветами, и вдруг обратилась к фотографии покойного мужа. Она сказала:

– Слава, ты слышишь нас? Какие у тебя хорошие внуки!

Потом сказала народной артистке Ольге Клебанович, которая подошла ее обнять:

– Он часто приходит ко мне, я его слышу. Он всегда чем-то занят – просто где-то в соседней комнате.



Борис Луценко вспоминает...

Вчера, 26 июня, исполнилась годовщина со дня смерти народного артиста Ростислава Ивановича Янковского. Его родные и близкие, а также большая часть труппы Русского театра, в котором великий актер прослужил всю жизнь, пришли к его могиле, чтобы почтить память уникального человека, кумира миллионов.

Это была очень неформальная встреча актеров с мастером, авторитетом, для многих – наставником. Выступали Ольга Клебанович, Александр Ткаченок, Андрей Душечкин, директор театра Эдуард Герасимович, бывший главный режиссер Борис Луценко. Его называли неукротимым, неуспокоенным, фанатично преданным профессии, неугомонным… Соглашались, что очень не скоро в театр придет такая глыба, такой талант. Некоторые актеры старшего возраста даже признавались: человека год как нет в театре, а он видится им во сне, советует, ругает, улыбается. Творчество Янковского олицетворяло великую эпоху в театре. Он – эталон отношения к сцене, профессии, коллегам.

Главный режиссер Русского театра имени Горького Сергей Ковальчик признался, что Янковский «пришел» к нему недавно возмущенный: «Что ты за ерунду делаешь!» Только словцо было не «ерунда», а крепкое, мужское, улыбнулся Ковальчик. А в театре, продолжил он, как раз был разгар репетиций спектакля «Подводники», премьера которой состоится через несколько дней, 30 июня. «Я аж подскочил с кровати, честно скажу, – сказал Сергей Михайлович. – И через две-три репетиции – я точно это почувствовал – дело у нас пошло. Ростислав Иванович будто подтолкнул нашу «подводную лодку»! Но в театре его не хватает… Не хватает».

Борис Иванович Луценко вспомнил, как, приехав из отпуска на первую репетицию новой пьесы «Перед заходом солнца», Ростислав Иванович знал уже наизусть текст пьесы и даже показывал, как надо ее играть. «Он был Дон Кихотом театра: всегда рвался в бой за справедливость. С Янковским из театра ушло что-то важное: может быть, совесть… Он нас всех пытался держать в форме. Низко кланяюсь твоей памяти, Слава».

От семьи выступил старший сын Янковского – Игорь Ростиславович. Он сказал:

– Всю жизнь отец посвятил искусству – это само собой. Но самое главное: всю жизнь он посвятил Русскому театру. Если б вы знали, как он вас любил… Мы даже дома ругались – так нельзя! А он мог простить вам любые грехи. Потому что это были грехи детей. Простите директор, главный режиссер, великие артисты, но вы были его детьми. Он любил вас даже больше, наверное, чем нас, сыновей. На нас не хватало времени. Но мы прощали, понимали. Спасибо, что вы сегодня здесь, у его могилы. Папа, тебя помнят!

Но памятник к годовщине смерти народного артиста Ростислава Янковского поставить не успели. Это скорее всего будет осенью, в сентябре-октябре. Его создает скульптор Николай Байрачный. Ростислав Иванович в образе Пане Коханку сидит на высоком кресле. Магнат, князь, Радзивилл нашего Русского театра.

**Елена МОЛОЧКО.**

ЗАГАДКА ГІСТОРЫІ

# На крыжы

*(Працяг. Пачатак на 5-й стар.)*

А вось Хацкевіч зразумець баяўся. Я пытаю: а ведаеш, што мяне за нацыяналізм ледзь не зрабілі брытанскім шпіёнам?.. Што я Закаўказскую федэрацыю хацеў стварыць, ледзьве не ўгаварыў Сталіна?.. Не, кажа, не ведаю. І глядзіць спалохана. Вось як зараз вы... Думаеце: як гэта таварыш Берыя, які разам з таварышам Сталіным вынішчае ўсялякую нацдэмаўшчыну, можа быць нацыяналістам? Пастку ставіць, не йначай...

Купала не думаў пра тое, чаму раптам Берыя стаў строіць з сябе нацыяналіста? У краіне, дзе, прачнуўшыся ранкам, ніхто не ведаў, ці ляжа ў свой ложак вечарам, кожны з сябе некага строіў, ніхто не быў самім сабой. Кожнаму здавалася, што ў іншага, не такога, які ён ёсць, шанец выжыць большы.

А вось пра пастку Купала думаў. І адчуваў, што патрапіў у яе так, што наўрад ці вырвацца. Хіба толькі па-звярынаму лапу сабе адгрызці…

– Ты маленькі, дробнабуржуазны нацыяналіст! – раптам рэзка падняўся Берыя. – І мысліш дробнабуржуазна, па-маленькаму! Вось так… – склаў ён два пальцы ў дзюбку, паказваючы, як дробна, па-маленькаму мысліць Купала. Пастаяў гэтак, гледзячы ўверх і любуючыся эфектам… Сеў, засмяяўся двума кароткімі смяшкамі. – Гэта не я кажу вам, гэта Сталін мне так казаў, калі з Тбіліся ў Маскву паклікаў. А трэба, сказаў, калі некім быць, няхай сабе нацыяналістам, дык вялікім. А як ім быць, як ім стаць?.. Вы не думалі… гэта я ўжо да вас, Іван Дамінікавіч… што такое вялікі палітык, палкаводзец, паэт? Чым вымяраецца веліч? Самім палітыкам, палкаводцам? Паэтам, ягоным талентам? Вядома, не без таго, але ведаеце, колькі таленавітых у якім-небудзь Ліхтэнштэйне? – з цяжкасцю вымавіў Берыя назву маленькага еўрапейскага княства, і Купала падумаў, што назву Манака вымавіць яму было б лягчэй. – Дзяржавай, Іван Дамінікавіч, веліч вымяраецца! Краінай, якая стаіць, якая высіцца за палітыкам, палкаводцам, паэтам! Вось адкуль веліч! Параўнайце: што такое Купала, за якім Беларусь, і што такое Купала, за якім Савецкі Саюз?.. Вы падыходзіце для Савецкага Саюза, вы яму адпавядаеце, таму мы вас і цягнем! Перад вамі гара, узыходзьце! На ёй кедры, дубы, над ёй сокалы, арлы! А вы ў беларускія кусты, у хмызняк, дзе ўсялякая drабяза пасецца. Нацыянальныя мышы ды тхары. Толькі піск ды смурод…

Берыя ўзяўся за бутэльку, нібы віна наліць хацеў, але не наліў. Можа, не прыдумаў, за што выпіць? Не за мышэй жа з тхарамі…

– Сталін папрасіў мяне прыглядзецца да Хацкевіча: можна яго на гару, у Маскву, ці ён тхор? Толькі смярдзець будзе?.. Я не паспеў разабрацца, яго забілі. Са мной пераблыталі. У яго, як і ў мяне, пенснэ было, а ўжо звечарэла… На Каўказе хутка вечарэе. Вельмі хутка. Вось яшчэ нібыта дзень – і ўжо ноч. Месяц то з хмары, то ў хмару. І стрэлы з ночы, з цемры. Мы ў машыне ехалі, ён горы захацеў паглядзець. Жонка мая з намі, сын… Сасо мне пасля гэтага браніраваную машыну прыслаў. Такі самы "Пакард", на якім сам ездзіў… Але тады, у гарах на ваенна-грузінскай дарозе зратавала мяне не бронь. У Хацкевіча пенснэ бліснула – у яго й стрэлілі. Выйшла, што ён мяне зратаваў. Беларус грузіна. Хіба не так?.. Выпадкова, але так. І я не тое каб пакляўся, не, проста сказаў сабе… мы, грузіны, мегрэлы, а я яшчэ й мегрэл, удзячныя людзі і ўмеем трымаць слова… дык вось я сказаў сабе, што пры выпадку зратую некага з беларусаў. І ўспомніў, як Хацкевіч распавядаў пра вас. Вось вы й жывы…

Берыя ўстаў, пайшоў па зале. Дакрочыў да дзвярэй, прыадчыніў іх і, пакінуўшы прыадчыненымі, рушыў назад…

– Але часова. Пакуль жывы. Бо ўсё можа памяняцца ў свеце. Як памянялася аднойчы ў гэтым рэстаране… Я спытаў неяк: "Сасо, што ты ўсё дома сядзіш? У Крамлі ды на лецішчы. Людзей не бачыш…" І прывёў яго сюды. Угаварыў прыйсці. Ён стаяў там, дзе цяпер вы, і глядзеў. Без асаблівай цікавасці. Нават спытаў: "Ты для чаго мяне сюды прывёў?.." Злаваць пачаў, але тут адчыніліся дзверы – і ўвайшла яна. З ягоным сынам і… Зрэшты, не важна, з кім яшчэ. Важна, што гэтак увайшла, што… – Берыя вярнуўся да стала, сеў, закінуў нагу на нагу і гукнуў у прыадчыненыя дзверы. – Пакажы, як ты ўвайшла!..

Увайшла Ганна.

– Вось, глядзіце, ён тое самае ўбачыў! – казаў Берыя, пакуль Ганна ў белай сукенцы пад чырвонай пелярынаю крочыла цераз залу па сінім дыване. – Белыя плечы пад пелярынаю… Як яна плыве, як уздымаюцца дыханнем грудзі, як перакочваюцца, напоўненыя жаданнем, клубы. Яшчэ б!.. Як не жадаць, калі спатоліць тваё жаданне можа той, каго жадае ўвесь свет! Калі ўся зямля жадае, каб ён яе ўзяў, хоць як, ласкай ці гвалтам, а ён можа ўзяць цябе адну, дык як тут не будзеш жадаць, я так кажу, Ганна?!.

– Так, – сказала Ганна, сеўшы да стала. – Вы ўсё кажаце так. І нават Табідзэ так цытуеце. "Белыя плечы пад пелярынаю…" – узмахнула яна рукамі да гаўбца, на якім стаў Купала, і чырвоная пелярына зляцела з яе плячэй, якія проста бліснулі беллю. – Але пры чым тут ён? Пры чым тут гэты чалавек на гаўбцы?

Берыя не падняўся, каб падаць пелярыну. Толькі рух зрабіў, але не падняўся. І Ганна толькі рух зрабіла, але пелярыну не падняла.

– Вось няхай ён і скажа, а я паслухаю… І падумаю, як падаць галаву барана? Як метафару ці як пачастунак?..

Купала глядзеў на пелярыну. Яна ляжала, чырвоная, на сінім дыване пад нагамі Ганны – здавалася, плыве па сіняй рацэ, на беразе якой Ганна сядзела, падабраўшы падол сукенкі, каб не замачыць, і ён успомніў маці, якая сядзела вось так, падабраўшы падол сукенкі, над ракой, толькі ён забыўся праз іх частыя пераезды, дзе, у Вязанцы, Сеніцы, Селішчы, і была падобнай да Лёлі, багіні прыгажосці, якой яе ўяўляў ён, маленькі Ясь, і думаў, што калі вырасце і ажэніцца, дык ці з маці, ці з Лёляй, і сказаў пра гэта маці, крыкнуў цераз раку, бо на другім беразе быў: "Калі вырасту, я ці з табой ажанюся, ці з Лёляй!" – на што маці засмяялася, а тут да ног яе падплыло нешта чырванаватае, не разабраць было, што, можа, толькі што знятая, не выскрабаная скура барана, якую маці, нагнуўшыся, паспрабавала вылавіць, ніякая скура ў гаспадарцы не лішняя, але не ўтрымалася і сарвалася з берага пад скуру галавой, ніяк не магла, перапудзіўшыся, з галавы тую скуру сцягнуць, нарэшце вынырнула, закрычала, захлынаючыся: "Я-я-яська!.. Я-ясь!.." – і ён кінуўся ў раку, вада ў якой здалася яму чамусьці такою ж, як кроў, чырвонай, не відаць дна – вада Айчыны…

– Вы нядаўна сказалі, што мужчына – гэта жанчына і Айчына. Мне няма чаго дадаць.

Ганна павяла плячамі, Берыя ўсё ж падняўся на гэты жэст, падаў пелярыну. Сеў, наліў у бакалы віна. Купалу зверху здалося, што сабе белага, а Ганне чырвонага. З адной бутэлькі.

– Гэта адказ. Наўрад ці яму спадабаецца, але гэта адказ. – І падняў бакал. – Вып'ем!.. Як там у вас, на вышыні?..

Купала схадзіў па свой кілішак, Ганна таксама бакал падняла, спытала напружана, відаць было, што ў фінале гэтай рэстаранна-тэатральнай пастаноўкі яна не чакала нічога добрага: "За што?.."

Берыя хацеў нешта сказаць, але перадумаў. Змаўчаў і паглядзеў на Купалу.

– У мяне знаёмая ў Грузіі… Эліко… – пачаў Купала праз паўзу, ціха. – Усе думалі, што ў нас раман, а да яе сватацца прыехалі. І жаніх, між іншым, мегрэл, калі ў застоллі сядзелі, прыпавесць распавёў…

Жыла ў гарах прыгажуня. Прыйшоў да яе сватацца джыгіт. І ў гэты ж час яшчэ адзін. Сталі спрачацца: каму першаму сватацца? Пачалі біцца – і забілі адзін аднаго. І сталі праз гэта біцца іх родныя, крэўныя – і пазабівалі адзін аднаго. І пазабівалі праз гэта адзін аднаго ўсе жыхары іх паселішчаў. Застаўся жывы толькі адзін сівы, мудры горац, які й пакінуў свету гэтую легенду... Давайце вып'ем за…

Берыя падняўся – і Купала змоўк.

– За дружбу народаў! – сказаў Берыя, хоць Купала чакаў, што скажа: за мудрага горца! – За рускіх, – чокнуўся ён з Ганнай, – за беларусаў, за грузінаў… Лангіноз адчыніць рэстаран, – падняў ён бакал да Купалы, – і можаце зверху глядзець. – Выпіў і дадаў, памаўчыўшы. – Калі нікога не захочаце забіць, не паверу. – І кінуў да Ганны. – Ты застаешся?

– Фу!.. – выдыхнула тая і, выпіўшы віно, пацепнула белымі плячыма пад чырвонай пелярынай. – Дзякуй, я ўжо глядзела. Усіх бы пазабівала. І тых, хто ўнізе, і тых, хто зверху.

Шалёная.

"Шенма сурвілма дамліа
Шензе фікрма да севдама
Шорс цасвлам, хшірад гакрама
Гуліс твалебіт мхедвама,
Гуліс твалебіт мхедвама..." – насцеж расчыніліся дзверы перад Лангінозам з музыкамі, і пакуль тыя спявалі, як каханая страціла каханага, нібы чаркес стралу, Лангіноз паказваў, як выходзіла ў Берыі з адной бутэлькі і белае, і чырвонае віно наліваць: "Тут перагародка, дзве бутэлькі ў адной. Фокус просты, але, калі не ведаць, уражвае. Ён Сталіну, калі знаёміліся, гэтаксама наліў. Той не ведаў і ўразіўся. У Маскву яго ўзяў. А ён мяне паклікаў… Вы таксама можаце, каго хочаце, паклікаць. Калі няма гаспадара, гэта не забараняецца. Увогуле ўсё можна, калі гаспадара няма…"

Купала не стаў нікога клікаць. Табідзэ ў Маскве не было, а некага іншага… Можна, вядома, некага… Таго ж Асеева, Ціханава… Але ён падумаў: "Мяне б яны паклікалі?.." Стаяў на гаўбцы, папіваў каньяк, падыходзіў да стала, закусваў смачна, кухара Кікнадзэ не трэба было засмажваць, глядзеў з гаўбца ўніз, дзе ўсё болела шуму, звону, людзей, жанчын у шыкоўных строях і мужчын у ладна скроеных касцюмах, фрэнчах і кіцелях, якія коратка, так, каб было як бы незаўважна, кідалі, калі прыкурвалі, позіркі наверх, і па тварах іх прабягала то недаўменнасць, то разгубленасць: хто там, на гаўбцы Берыі, дзе выпадковых не бывае? – і гэтая невядомасць выклікала ў іх адчуванне небяспекі, шмат хто відавочна нерваваўся, вунь тыя два вайскоўцы амаль пад самым гаўбцом, абодва з пятліцамі палкоўнікаў, якія налівалі і выпівалі, налівалі і выпівалі, не закусваючы, пакуль адзін не з'ехаў з крэсла тварам у талерку з кабачкамі, а потым стаў выцірацца сурвэткай, як нядаўна паказваў Берыя, так, што стала гідка, і ўжэрты палкоўнік адчуў гэта, крайком вока ўбачыў позірк Купалы, які свідраваў яго зверху, ускочыў і застыў рукі па швах з кабачковымі семкамі на падбароддзі, з боку ў бок хістаючыся, пакуль хаўруснік не ўзяў яго пад пахі і не пацягнуў у прыбіральню, чапляючыся за ножкі крэслаў, за сталы, устаўленыя, як на карціне, бутэлькамі, чырвонымі і белымі місамі, талеркамі з рыбай, мясам, заваленыя зелянінай і садавінай, і ўсё гэта пад музыку з танцамі, пад "Барыню" і "Лезгінку" пілося, елася, жавалася, жэрлася ў сталіцы краіны, на прасторах якой смерць пажынала людзей, старых і дзяцей, галадаморамі, знішчала іх ссылкамі, лагерамі, генацыдамі – Купалу невыносна захацелася забіць і тых, хто ўнізе, і тых, хто зверху, дзе ён быў адзін...



ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

# БОЛЯТ суставы...

*Почему возникают заболевания суставов, и в каких случаях достаточно принять обезболивающие, а в каких необходимо начать курс лечения хондропротекторами? Может ли суставам помочь скандинавская ходьба? В редакции «Народной Воли» прошла «Прямая линия» с доктором медицинских наук, профессором, заведующим 2-й кафедрой внутренних болезней Белорусского государственного медицинского университета, руководителем республиканского центра ревматологии Николаем СОРОКА. Более двух часов Николай Федорович отвечал на многочисленные вопросы наших читателей. Публикуем ответы в трех номерах газеты.*

## Обезболивающими препаратами увлекаться не надо

**– Добрый день, «Народная Воля»! Спасибо за возможность задать вопрос доктору. Звоню из агрогородка Сивица Воложинского района. Мне 64 года, беспокоит правое колено, после рентгена поставили диагноз остеоартроз 2-й стадии. Боль отдает в тазобедренный сустав, больно ходить, более того, ночью ощущаю боли в паху. Что делать?**

– Прежде всего надо сделать рентгенограмму костей таза. Дело в том, что ситуации бывают разные: проблема может быть в тазобедренном суставе, а болит колено. Или очаг проблемы в пояснице, а болит и тазобедренный сустав, и колено. Это нередкая ситуация, когда пациент длительное время лечит колено, а на самом деле беда в тазобедренном суставе. Из колена в тазобедренный сустав боль отдавать не может, наоборот – часто.

Рентгенограмму тазобедренных суставов сегодня делают в ЦРБ, в Минск ехать не надо. Потом обязательно проконсультируйтесь с ревматологом.

**– Здравствуйте! Врачи поставили диагноз деформирующий остеоартроз. Очень тяжело ходить. К вечеру голеностопные суставы сильно отекают**.

– Лет вам сколько?

– 68.

– Обычно, тем более у мужчин, отека при остеоартрозе не бывает. Возможно, у вас есть другие заболевания. Надо обследоваться. А пока можно принимать обезболивающие препараты, лучше оригинальные и местно втирать противовоспалительные гели. Но обезболивающими препаратами увлекаться не надо. Боль ушла – прием лекарства отменили.

**– Скажите, а листья лопуха могут отеки снять?**

– Некоторым они помогают. И листья капусты, и лопуха. На ночь нужно обернуть отекший сустав обратной стороной листа. Вреда от этого точно не будет.

**– А как понять, что в суставах происходят изменения? Какие первые симптомы артроза?**

– Обычно человек ощущает боль в тех суставах, которые испытывают максимальную нагрузку – коленных, тазобедренных. Боль чаще всего напоминает о себе вечером, после работы или тренировки, а стоит отдохнуть – и она проходит. По утрам в суставе появляется скованность, а через полчаса, когда вы «расходитесь», она исчезает. Это симптомы «раннего» артроза.

**– Добрый день! У меня опухают ноги, туго двигаются, обувь не могу надеть. Это сердечные отеки или проблемы в суставах? Может ли это быть последствие от длительного приема антибиотиков?**

– Утром отеки есть?

**– Остаются. Правда, голеностоп не болит, но в коленях боль чувствуется.**

– На сердечные отеки это не похоже, раз утром они остаются. Не думаю, что это связано и с длительным приемом антибиотиков. Бывают такие инфекции, когда больным назначается курс антибиотиков даже на 6 месяцев, в США – даже на 9 месяцев. Возможно, ваши припухлости связаны как раз таки с инфекцией, которую вы лечили. Например, есть легочные инфекции, которые могут вызывать заболевания суставов. Человек переносит бронхит или пневмонию, и получает осложнения на суставы. Вам нужно проконсультироваться с ревматологом. Просите в своей районной больнице или поликлинике направление на консультацию в Республиканский ревматологический центр (Минск, ул. Семашко, 10).

**– Из Ивенца беспокоят. Я делала снимок в Аксаковщине и мне сказали, что у меня грыжа в позвоночнике. Спина болит часто, боль отдает в колено. Что вы мне посоветуете?**

– Обратиться к неврологу. Эту болезнь лечат они, а не ревматологи.

**– Я пью нимесулид, но он не очень помогает.**

– Возможно, возникло привыкание к этому препарату и эффекта нет. Попробуйте диклопентил, 2 таблетки



в день – утром и вечером после еды. И обязательно проконсультируйтесь с неврологом.

## Ищите свою таблетку

**– Добрый день, Николай Федорович! Инвалид 2-й группы беспокоит. В 2005 году перенес инсульт. А в последнее время болят ноги, кажется, кости ломаются. Спина скована, мышцы горят огнем. Как снять боль? Обезболивающее кетарол пью постоянно, мази втираю. Но не очень все это помогает.**

– Кетарол – плохое лекарство. Это зло для желудка, долгое его применение может вызвать язву желудка или желудочное кровотечение. Надо выбирать те обезболивающие лекарства, которые более безопасны для желудка и сердца. И необходимо менять лекарства, потому что происходит привыкание организма к одному препарату. Попробуйте принимать нимесулид или диклопентил, ибупрофен. Главное – выбрать наиболее эффективное средство именно для вас. В вашей ситуации можно пропить антидепрессант (дулоксетин), который уменьшает нейропатическую боль.

**– Добрый день! Звоню из Минска. Моих пожилых родителей, а им за 80, боли в суставах замучали, и в больницах лежали, а облегчения нет. В районе не особо говорят, чем лучше лечиться. Мама уже плохо ходит, пальцы на руках болят, у папы спина постоянно ноет.**

– Они сельские жители?

– Да, живут в Воложинском районе, в деревне Богданово.

– К сожалению, от физических нагрузок суставы износились. В организме происходят банальные возрастные изменения. И помочь уже могут только обезболивающие препараты. Надо подобрать то, что будет снимать боль. Покупайте не целую упаковку обезболивающего, а один блистер. Три дня пропили лекарство и посмотрели, стало немного легче или нет. Если боль такая же, легче не становится – пробуйте другие таблетки. И т.д., пока не найдете свое лекарство. Никакие физиопроцедуры в таком возрасте уже не помогут, да и противопоказаны. Можно делать тепловые компрессы на область спины, втирать обезболивающие гели в колено, в голеностоп, в область позвоночника – капсикам или финалгон.

**– Отец ищет положение, при котором боль утихает.**

– Боли сильные оттого, что, очевидно, нерв сдавливается, ущемляется и болит. Иногда помогает 15 минут лежания на полу, на твердой поверхности. Позвоночник распрямляется, нервный корешок освобождается от сдавливания.

**– Николай Федорович! С начала года меня беспокоят внезапные эпизодические боли в области правого голеностопного сустава. Как от них избавиться? Мне 75 лет.**

– Это одно из проявлений остеоартроза. Во время движения в полость сустава попадают микрообломки хряща, и поскольку на внутренней поверхности сустава очень много нервных окончаний, это вызывает сильную боль. Лечение должно быть обычным, как при остеоартрозе – обезболивание и курсы хондропротекторов. При очень сильной боли помогает современный безопасный препарат аркоксия.

**– А что такое остеоартроз?**

– Это дистрофическое заболевание суставов, при котором разрушается хрящ и прилегающие костные ткани суставов. Это самое распространенное заболевание в пожилом возрасте.

**– Мне иногда холод помогает. Как схватит сустав – я его под холодную воду.**

– Такой метод лечения признается. В период обострения можно приложить холод на полчаса.

**–А какие хондропротекторы при остеоартрозе наиболее эффективные? Мне уже их как-то назначали при болях в колене – не помогли, а теперь вот голеностоп разбушевался.**

– К сожалению, волшебных таблеток не бывает, чтобы выпил и ничего не болело. С возрастом наши суставы не молодеют, а разрушенный суставной хрящ уже ничем не восстановится. Но приостановить процесс разрушения можно, поэтому применение хондропротекторов эффективнее всего на ранних стадиях остеоартроза. Препаратов сегодня на рынке много, но эффективность их разная. Объясню почему.

В состав большинства хондропротекторов входят вещества, которые в норме вырабатываются в человеческом организме – хондроитин сульфат и глюкозамин. Хондроитин сульфат, который используется для производства лекарств, получают либо из бычьих хрящей, либо из плавников акулы. Также имеется хондроитина сульфат птичий. Лечебный эффект дает тот хондроитин сульфат, где содержание хондроитина-4-сульфата заметно преобладает над количеством хондроитина-6-сульфата. Результаты исследования показали, что в сырье птичьего происхождения наиболее высокое содержание хондроитина-4-сульфата и в 3–4 раза превышает содержание хондроитина-6-сульфата. В отличие от бычьего сырья, в котором содержание хондроитина-4-сульфата и хондроитина-6-сульфата приблизительно одинаковое и от акульего сырья, в котором содержание хондроитина-6-сульфата преобладает над хондроитина-4-сульфата. Следовательно, пациент может принимать препарат с хондроитинсульфатом бычьего или акульего происхождения, и лечебный эффект будет минимальным.

Точно так же и с глюкозамином. Эффективным будет только то лекарство, в состав которого входит глюкозамин сульфат. По данным американским ученых, терапевтический эффект от глюкозамин гидрохлорида равен -0,02. То есть эффекта нет никакого! Но и покупая лекарство, в состав которого входит глюкозамин сульфат, нужно смотреть, какой он молекулярной массы. Сегодня признается только кристаллизованный глюкозамин сульфат с большой молекулярной массой, он долго держится в суставе и дает клинический эффект.

**– Добрый день, Николай Федорович! У меня артроз 2-й стадии тазобедренных суставов. Как его сдерживать, чтобы хрящи больше не разрушались? Что лучше – дона или мукосат? Алфлутоп как-то колола – не помогло.**

– Вам сколько лет?

– 75 лет.

– В 75 лет в хрящах не так много клеточек, которые могут синтезировать новые вещества. И вы правильно делаете, что принимаете такие препараты, как дона или мукосат – они как бы дают строительный материал для образования хрящевой ткани. А алфлутоп действует как стимулятор, чтобы организм сам образовывал этот материал. Чем человек старше, чем эффект от алфлутопа меньше.

**– А правда, что от хондропротекторов сосуды портятся?**

– Нет. Неправда.

**– Эффективна ли магнитотерапия при остеоартрозе? Стоит ли использовать магниты, ведь они недешево стоят?**

– Магнитотерапия как метод физиотерапевтического лечения в ревматологии используется. Она дает лучший эффект там, где есть отек, припухлость сустава, когда он воспален. Если использовать магнитотерапию для лечения остеоартроза, эффект будет минимальный.

**– Николай Федорович, здравствуйте! Хотел бы услышать ваш совет. Мне 35 лет. В марте был поставлен диагноз коксартроз 3-й стадии. Прошел курс СМТ и лазерного лечения, принимаю терафлекс. Физиотерапевт сказала, что пробежки придется отложить до лучших времен. Но дело в том, что болевых ощущений болезнь мне не доставляет, врач говорит, что это, возможно, результат занятий тайским боксом с его растяжкой. Но можно ли мне сейчас заниматься спортом?**

– Удивительно, что при 3-й стадии коксартроза вы занимаетесь пробежками. Обычно на такой стадии заболевания пациенты испытывают сильные боли во время движения, особенно бега.

Занятия спортом при этом заболевании полезны, но без нагрузки на суставы. Поднятие штанги, тяжелых гирь противопоказаны. Лучше плавать или кататься на велосипеде.

**– А какой препарат, на ваш взгляд, лучше принимать – терафлекс или хондрозамин?**

– На сегодняшний день в арсенале врачей Беларуси есть препараты лучше, чем терафлекс и хондрозамин, но конкретному пациенту их должен назначать врач. По телефону коксартроз 3-й стадии не лечится.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

*(Продолжение в следующем номере.)*



ПРЫ СВЯЧЭННІ ІМЯ



***"Народная Воля" прэзентуе новую рубрыку, якую будзе весці выдатны беларускі паэт, журналіст і перакладчык Сяргей ПАНІЗЬНІК. "ПРЫ СВЯЧЭННІ ІМЯ..."*** *– гэта вершы-прысвячэнні, хваласпевы, экспромты, якія ствараюцца ў натхненні пры ўспаміне пра даўняга сябра, творчай асобе, пры згадцы неабыякавага табе чалавека, а галоўнае – пры свячэнні яго Імя, – гаворыць Сяргей Сцяпанавіч. – І тады з праменьчыкаў гэтага свячэння, подыху цеплыні ад гэтай зыркаты і складаюцца радкі прытульнасці. Сам сабою далучаецца фотаздымак той мо і даўняй сустрэчы, якія становіцца новай святлінкай у суіснаванні, сужыцці, сутворчасці... І першай яснотай у маёй рубрыцы «Пры свячэнні імя...» для газеты «Народная Воля» няхай будзе сёлетні 75-гадовы юбіляр* ***Вячаслаў Пятровіч РАГОЙША.***



*65-гадовы паэт Вячаслаў Пятровіч падпісаў свой зборнік вершаў "Полюс цяпла". 28.06.2007.*

# «Век прафесар не самлее, бо ў натхненні жыць умее!»

## З асабістай справы

Вячаслаў Рагойша – беларускі філолаг, літаратуразнаўца.

Нарадзіўся 5 чэрвеня 1942 года ў в.Ракаў Валожынскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і.

Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт па спецыяльнасці «беларуская мова і літаратура» (1963).

Доктар філалагічных навук. Прафесар. Загадчык кафедры тэорыі літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі. Сябра вучонага савета філалагічнага факультэта БДУ і вучонага савета Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны пры Міністэрстве адукацыі.

Старшыня Міжнароднага фонду Янкі Купалы (з 1996 года). Арганізатар Міжнароднай навуковой канферэнцыі «Ракаўскія чытанні» (з 1996 года).

Тэма кандыдацкай дысертацыі: «Паэтыка Максіма Танка: Культура вобраза. Характар верша» (1967). Тэма доктарскай дысертацыі: «Беларуская паэзія XX стагоддзя ў кантэксце ўсходнеславянскіх літаратур: Тыпалогія, рэцэпцыя, мастацкі пераклад» (1993).

Аўтар больш як 800 навуковых публікацый і даследаванняў па гісторыі і тэорыі беларускай літаратуры, беларуска-славянскіх літаратурных узаемасувязяў, па вершазнаўстве, праблемах тэорыі і практыкі мастацкага перакладу, паэтыцы літаратурнага твора, з якіх амаль 300 – асноўныя навуковыя працы, у тым ліку 16 манаграфій. Першым дасканала даследаваў рукапісы Янкі Купалы і знайшоў падчас гэтай працы дзясятак новых твораў беларускага класіка. Вядомы ліст Берыі Сталіну пра гібель нашага Песняра, які часта цытуецца, – гэта адказ на ліст Рагойшы як старшыні Міжнароднага фонду Янкі Купалы, з якім Вячаслаў Пятровіч у свой час звяртаўся ў КДБ СССР.



**Рыгор Барадулін, Адам Мальдзіс, 50-гадовы Вячаслаў Рагойша, Анатоль Наліваеў адзначаюць у Доме літаратара 50-годдзе Сяргея Панізьніка. 19.05.1992 г.**

**Фота Жанны МАЁРАВАЙ.**



***25-гадовы Вячаслаў Рагойша на пачатку ўзнёслай педагагічнай і навуковай кар'еры ва ўніверсітэце. 1967 г. Фота С.Панізьніка.***

## СЛАВІЦЬ ВЕЧА ГАДОЎ !

У гушчэчу юбілейных віншаванняў Вячаслава Пятровіча Рагойшы – доктара філалогіі, прафесара, акадэміка, ракаўскага лірыка – прысвячэнне з эпіграфам:

*Век не лічыць нам гадочкі.*
*Мы з табою два браточкі.*
*Ты – мудрэц! Наліў-наіў*
*я – ларэц з прыдзвінскіх ніў…*
*Клікнуць позна – не пагрозна,*
*а раней – усім вальней*
*юбілеіцца пачаць.*
*Летаў семдзесят плюс пяць*
*могуць чэрвеняў прыдбаць,*
*содні ў ходнікі прызваць,*
*Веча славіць крозна-слёзна…*
*Будзе ў Ракаве завозна!*
*Топнуць госці, бо не позна*
*умасціць Рагойшы кладзь.*
*Помніць Вячаслава раць:*
*Кіеў, Львоў за ім стаяць.*
*Вось чаму – увесь ірдзяны –*
*лашчыць кудзеркі Тацяны.*

*Ён з Каханнем змог ужыцца.*
*Золата куе з Кабржыцкай:*
*шлюб чакае юбілею…*
*Век прафесар не самлее,*
*бо ў натхненні жыць умее!*

***P.S.***
*…Як бы я ні рыкаў-кракаў*
*і пра Еўразвяз ні плакаў, –*
*а сталіца ў Славы – РАКАЎ!*
3.06.2017.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

ДЛЯ ВЯСЁЛАЙ КАМПАНІІ



## У садзе гуляла

Словы і музыка народныя

Ў садзе гуляла,
Кветкі збірала,
Ў садзе гуляла
Кветкі збірала
Каго любіла –
Прычаравала. (2 разы)

Прычаравала
Сэрца і душу.
Прычаравала
Сэрца і душу,
Цяпер да цябе
Хадзіці мушу. (2 разы)

Хадзіці мушу,
Любіці буду.
Хадзіці мушу,
Любіці буду,
Скажу па праўдзе:
Сватаці буду. (2 разы)

– Дзяўчына міла,
Дзяўчына пышна…
Дзяўчына міла,
Дзяўчына пышна,
Чаму да мяне
Ўчора не выйшла. (2 разы)

– А я не выйду,
А я не стану…
А я не выйду,
А я не стану…
Прышлю сястрыцу
Такую саму!.. (2 разы)

А я з сястрою
Ўсю ноч прастою…
А я з сястрою
Ўсю ноч прастою,
Не тая мова,
Як і з табою!.. (2 разы)

Не тая мова,
Не тыя словы…
Не тая мова,
Не тыя словы,
Не бела лічка,
Не чорны бровы… (2 разы)

Ў садзе гуляла,
Кветкі збірала.
Ў садзе гуляла
Кветкі збірала
Каго любіла –
Прычаравала. (2 разы)

БОЛЬ

# Рэха трагедыі на Нямізе

*Мінула 18 гадоў пасля жудаснай трагедыі на станцыі метро "Няміга".*

Сёння бяда, якая ў свой час з'яднала краіну, засталася асабістай бядой некаторых з тых, чые дзеці засталіся там – на прыступках «Нямігі». Мая гутарка з мамай Аляўціны Навакоўскай доўжылася каля гадзіны. Увесь гэты час на вачах Наталлі Міхайлаўны стаялі слёзы. Ёй да гэтага часу балюча казаць пра дачку ў мінулым часе. Сёння ёй было б за трыццаць, магчыма, у дзяўчыны была б свая сям'я, дзеці.

– Аляўціна – другая, малодшая дачка ў нашай сям'і. Жаданае, любімае дзіця. Анёлачак, – кажа Наталля Навакоўская.– Яе жыццё пачыналася няпроста – мы з мужам вельмі хацелі другое дзіця, але ў нас доўга не атрымлівалася. Калі я зацяжарыла, мы былі шчаслівыя, па-сапраўднаму шчаслівыя.

Аля расла вясёлай дзяўчынкай. Яе старэйшая сястра – Клаўдзія ў дзяцінстве была больш спакойная. У школе дачка вучылася выдатна, ішла на медаль. Марыла стаць стаматолагам, як яе дзядуля...

Незадоўга да смерці Аля трапіла ў склад ганаровай варты, стаяла ля вечнага агню на плошчы Перамогі. А напярэдадні трагедыі мы ўсёй сям'ёй былі на лецішчы – палолі градкі. Аля ў той дзень была нейкая задуменная, але ў мяне ніякага хвалявання за дачку не было. Я памятаю, як яна стэлефаноўвалася з сяброўкамі-аднакласніцамі, памятаю, як яна збіралася на той канцэрт. Вельмі хацела паслухаць выступленне гурта «Манга-Манга».

Усе яны апынуліся ў тым падземным пераходзе. Адну з дзяўчат выратаваў мужчына, упёршыся рукамі ў прыступкі, сваім целам фактычна закрыўшы яе. Другой Алінай сяброўцы таксама пашчасціла выбрацца з натоўпу. Яна, губляючы прытомнасць, паспела выкінуць уверх руку і крыкнуць: «Дапамажыце», яе выцягнулі. Дзяўчынкі, якія засталіся жывыя, потым распавядалі мне, што перад смерцю Аля вельмі крычала... Натоўп напіраў на яе, пад ногі там асабліва ніхто не глядзеў. Людзі тапталі людзей. Дачка засталася ляжаць...

**– Як даведаліся пра трагедыю?**

– Памятаю. І ніколі гэтага не забуду. За акном ішоў лівень, неба было цёмнае-цёмнае. Дома я бегала ад аднаго акна да іншага. Чакала, што Аля патэлефануе, дасць пра сябе знаць.

І вось цішыню парваў тэлефонны званок. Патэлефанавала мне мама адной з тых дзяўчынак, з якімі дачка пайшла на канцэрт. Спытала, ці прыйшла Аляўціна? Я адказала, што дома яе няма, тады мне і распавялі, што на канцэрце адбылося нешта страшнае.

Мы з мужам хутка сабраліся, праўда, не ведалі нават, на якой станцыі метро ўсё здарылася. Выйшлі спачатку на «Купалаўскай», дзе нам сказалі, што трагедыя здарылася на «Нямізе». Мы прыехалі туды. Там нікога ўжо не было – ні жывых, ні мёртвых. Толькі рэчы пацярпелых… Мы даведаліся, што многіх павезлі ў другую бальніцу, якая тады размяшчалася побач з «Нямігай». Мы з мужам пабеглі туды...

Карціна, якую там убачылі, стаіць перад вачыма як цяпер: людзі ляжалі на бальнічнай падлозе. Алю сярод іх мы не знайшлі. Сказалі, што трэба шукаць у іншых гарадскіх бальніцах.

**– Як знайшлі?**

– Дачку мы знайшлі ў Бальніцы хуткай дапамогі. Яна ляжала на каталцы, – крайняй ля сценачкі. Мёртвая. Муж, калі гэта ўбачыў, не вытрымаў, прама там страціў прытомнасць. Твар і шыя Алі былі ў плямках, што характэрна для ўдушша... Мы забралі яе дадому і пахавалі 1 чэрвеня – у дзень абароны дзяцей. Прычым цела дачкі нам аддаваць адразу не захацелі, маўляў, патрабуецца ўскрыццё на прадмет утрымання алкаголю ў крыві. Я сказала ўрачам, што ўскрываць цела маёй дачкі яны змогуць толькі ў тым выпадку, калі на суседняй каталцы апынуся я.

Я разумею, што на канцэрце піва лілося ракой, шмат хто быў нападпітку, але гэта не пра маю дачку…

А можа, гэта трэба было для таго, каб потым у судзе было лягчэй адбівацца ад пацярпелых, сцвярджаючы, маўляў, натоўп быў п'яным, чаго ад п'яных хацець...

**– Наталля Міхайлаўна, вы былі на ўсіх судовых пасяджэннях па справе аб гібелі людзей на Нямізе. Хто, на ваш погляд, вінаваты ў тым, што здарылася...**

– На мой погляд, у тым, што здарылася, вялікая віна ляжыць на міліцыянерах, якія не змаглі забяспечыць належную бяспеку.

Я гутарыла са следчым Камароўскім, які вёў гэтую справу, ён расказаў пра тое, як дапытваў супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Дык вось, многія з іх сядзелі ў аўтобусах каля Палаца спорту. Калі пачаўся лівень, яны заставаліся ў аўтобусах і казалі адзін аднаму, маўляў, зараз паглядзім, куды «гэтыя» пабягуць". Працягвалі балбатаць замест таго, каб закрыць людзям доступ у метро. Усё, што ім трэба было зрабіць, – гэта перакрыць на пяць хвілін тагачасны праспект Машэрава і даць людзям спакойна разысціся. Але гэтага зроблена не было, як і не было на месцы правядзення канцэрта навесаў ад дажджу, як і не было там дастатковай колькасці машын «хуткай дапамогі». Пацярпелых грузілі ў звычайныя машыны. Як дровы, наносячы людзям, якія пацярпелі ад удушша, яшчэ большыя траўмы...



**Наталля Навакоўская на месцы гібелі дачкі.**

Потым, пасля таго, што здарылася, сталічная міліцыя паспрабавала апраўдацца. Нас, сваякоў загінуўшых і пацярпелых, сабралі ў кінатэатры «Кастрычнік», дзе спрабавалі пераканаць у тым, што тое, што адбылося, проста няўдалы збег абставін.

Да суда, як вы ведаеце, справа дайшла. Я і па сённяшні дзень упэўнена, што следству атрымалася даказаць віну міліцэйскіх чыноў. Асноўнымі абвінавачваемымі па крымінальнай справе ў халатнасці былі начальнік міліцыі грамадскай бяспекі ГУУС Мінгарвыканкама Віктар Русак і начальнік аддзела масавых мерапрыемстваў Міхаіл Кандрацін. Абодва яны сваю віну не прызналі. Праз тры гады артыкул абвінавачання быў перакваліфікаваны на больш мяккі, які не прадугледжваў адказнасць за гібель людзей, справа была спынена ў сувязі з заканчэннем тэрміну даўнасці. Вось і ўсё расследаванне. Сем'ям загінуўшых была выплачана кампенсацыя, але ніякія грошы не вернуць нам нашых дзяцей...

**– Пасля трагедыі бацькі загінуўшых і пацярпеўшых аб'ядналіся ў групу пад назвай «Няміга-99»…**

– Так. Але хто сёння звяртае на нас увагу? Некаторыя з тых, у каго на Нямізе загінулі сваякі, звярнуліся да мінскіх улад з просьбай аказаць матэрыяльную дапамогу ў рэстаўрацыі надмагільных помнікаў. Тым, хто сярод першых звярнуўся з такой просьбай, выдзелілі па 2 мільёны "старых" рублёў. Пазней на дапамогу змаглі разлічваць толькі пенсіянеры, інваліды.

У гэтым годзе ўся дапамога сем'ям загінуўшых на Нямізе абмежавалася 30 рублямі. На магільныя кветкі. На большае, сказалі, няма грошай...



**Аля назаўжды засталася юнай.**

Наогул, чыноўнікі прымушаюць нас перажываць гэтую трагедыю зноў і зноў. Вось вам яшчэ прыклад. Спіс загінуўшых вядомы даўно. Ён ужо не зменіцца. Дзевяць сем'яў жывуць не ў Мінску. І адпаведна выпалі з «мінскага» спісу. Яны вымушаны кожны год абіваць парогі розных інстанцый, пісаць заявы, паказваць пасведчанне аб смерці блізкага чалавека, каб атрымаць дапамогу. Вядома, гэта балюча. Няўжо нельга вырашаць гэтае пытанне неяк цэнтралізавана? Не дастаўляючы людзям лішніх пакут.

І так ва ўсім: для таго, каб правесці імшу ў памяць аб загінуўшых, мы кожны год пішам заявы ў розныя інстанцыі. Атрымліваецца, гэта мы нагадваем пра тую страшэнную трагедыю, а не ўлады помняць пра яе...

Я хачу памыліцца, але ў мяне складваецца такое ўражанне, што пра трагедыю на Нямізе будуць памятаць толькі да той пары, пакуль жывыя бацькі і сваякі загінуўшых і пацярпелых...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ЖАХ!

## Дзве бутэлькі за каўнер – і за руль!

У Ганцавічах затрымалі нецвярозага кіроўцу, які стаў рэкардсменам па ступені ап'янення за рулём.

24 чэрвеня прыблізна ў 23.50 на вуліцы Чырвонаармейскай інспектары дарожна-патрульнай службы спынілі "Форд-Мандэа", за рулём якога знаходзіўся 25-гадовы мясцовы жыхар у стане моцнага алкагольнага ап'янення. Медыцынскі агляд выявіў у яго 4,2 (!) праміле алкаголю.

Аўтамабіліст растлумачыў, што выпіў пасля сваркі з жонкай і ехаў на лецішча.

4,2 праміле – гэта амаль дзве бутэлькі гарэлкі.

НУ І НУ!

## У вёскі Віцебскага раёна наведваецца… мядзведзь

*Зараз мясцовыя ўлады вырашаюць, як з ім паступіць.*

За апошнія некалькі дзён мядзведзя бачылі ў населеных пунктах Задуброўненскага і Янавіцкага сельсаветаў, што недалёка ад расійскай мяжы.

Пацярпелых мясцовых жыхароў няма. Паведамляецца аб некалькіх пашкоджаных дачных участках.

Мяркуецца, што мядзведзь мігрыраваў у беларускія лясы з расійскага боку, ратуючыся ад адстрэлу. Паляваць на дадзены від у нашай краіне забаронена.

– *Мы знаходзімся паблізу расійскай тэрыторыі, дзе мядзведзяў адстрэльвалі,* – сказаў «Народнай Волі» старшыня Янавіцкага сельсавета Аляксандр Ізобаў. – *Мабыць, мядзведзіца дваіх вывела ўжо на нашым баку і кінула. Некалькі разоў яна з'яўлялася ў ваколіцах. На думку экалагічнай інспекцыі, такі від мядзведзяў трэба ахоўваць… Мы ўжо ўсталявалі супрацьпажарную сірэну, якой звер баіцца. Будзем уключаць, бо хутка пачнецца ягадны сезон, а мішкі любяць паласавацца чарніцамі і малінамі.*

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**

